© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №16-17(1-2), 2011

Алег Дзярновіч

# Літоўская мова ў Вялікім Княстве Літоўскім: паміж функцыяй і статусам

## Уводзіны, або казус 1529 года

На самым пачатку траўня 1529 года ад імя найвышэйшай судовай інстанцыі – «*з росказанья господарского*» – ураднікі (чыноўнікі) цэнтральнай і рэгіянальнай (Віленскага ваяводства) адміністрацыі Вялікага Княства Літоўскага накіравалі ў Эйшышскую воласць Лідскага павета (сёння ў складзе Салечніцкага раёна Віленскага павета Літоўскай Рэспублікі) судовага выканаўцу (дэцкага) Васіля Бяляніна. Той мусіў на месцы апытаць сведкаў наконт спрэчнай маёмаснай справы паміж баярынам гаспадарскім Пятром Сумарокам і падданым эйшышскім Сенькам Івашкавічам. Судовая інстанцыя, якую ўзначальваў маршалак гаспадарскі Мацей Войцехавіч Клочка, «*приказали есьмо Сумороку и тому Сеньку Ивашковичу, абы напередъ до тыхъ светъковъ ни одинъ з них не ездилъ, але бы ехали оба з децкимъ*».

Сумарок жа адпрасіўся не ехаць разам, а застацца ў Вільні. Якое ж было здзіўленне дэцкага, калі па дарозе ў Эйшышкі ён спаткаў Сумарока, «*аж он от светковъ едеть*». Далей жа судовы чыноўнік пачаў пытаць у пазывальніка: «*“Сумороче, где светъки”, – и он ми указалъ светъковъ у березнику. Потомъ, кгды светки передо мною стали и хотели сознати справедливост(ь), и Суморокъ почалъ имъ* ***говорити по-литовски*** *(вылучана мной. –* ***А. Дз.****) передо мною и просилъ их: “Для Бога не выдайте мя, а што есьми вамъ обецалъ, то дамъ, а вас в том не выдамъ”*». І дэцкі, «*видячы несправедливость Суморокову, тых светъковъ есьми не пыталъ*» (Lietuvos Metrika, 1995: 90, CXXI-CXXII, № 113). Дадамо, што Пётра Сумарок урэшце з-за спробы подкупу сведкаў прайграў у судзе сваю справу.

Гэтая, па-свойму ардынарная для свайго часу гісторыя, была зафіксаваная ў VI Кнізе судовых справаў Метрыкі ВКЛ. Але выпадкі, калі ў

Метрыцы – матэрыялах Канцылярыі ВКЛ непасрэдна фіксуецца выкарыстанне літоўскай мовы, вельмі рэдкія. А вышэй прыведзеная цытата тым больш цікавая, што ілюструе працэдуру судовага працэсу.

Такім чынам, мы бачым, што ў першай палове XVI стагоддзя літоўская мова магла быць зразумелая для судовых чыноўнікаў, прынамсі некаторых з іх. Але дэцкі адмыслова паведаміў суду, што пазывальнік перайшоў на літоўскую мову, каб схаваць сутнасць размовы. У той жа час судовая дакументацыя вялася на мове, якая ў самой Метрыцы ВКЛ пазначалася як «руская». І адбывалася гэта яшчэ да зацвярджэння II і III Статутаў ВКЛ 1566 і 1588 гадоў, у якіх быў вызначаны афіцыйны статус мовы Канцылярыі ВКЛ.

Два адчуванні з'яўляюцца ў гэтай сувязі. Пры моцным жаданні мы можам казаць пра рэальную маргіналізацыю літоўскай мовы ў дзяржаве, якая мела назву Вялікае Княства Літоўскае. Пазывальнік у нашай гісторыі, Пётра Сумарок, сапраўды спадзяваўся, што чыноўнік, які прыехаў з Вільні, не зразумее літоўскай гаворкі. Іншы варыянт ацэнкі падзеяў – літоўская мова была рэальным фактарам грамадскага жыцця Вялікага Княства.

## I. Жывая гаворка і крыптамова

XV стагоддзе дае нам прыклады выкарыстання літоўскай мовы ў палітычнай сферы, але на ўзроўні прыватных перамоваў, як гэта было на Луцкім з'ездзе манархаў у студзені 1429 года. У сваім лісце да Ягайлы ад 17 лютага 1429 года Вітаўт прыгадвае абставіны той сустрэчы. Калі Рымскі кароль Сігізмунд распачаў з польскім каралём гаворку пра каралеўскую каранацыю Вітаўта, а Ягайла пачаў пагаджацца, то асцярожны Вітаўт звярнуўся да свайго стрыечнага брата і караля наўмысна па-літоўску (як гэта было зафіксавана ў лацінскім дакуменце: «*nos vero in lithwanico diximus ad vos*») з прапановаю не спяшацца і параіцца з польскімі прэлатамі ды саноўнікамі (Codex epistolaris Vitoldi, 1882: 816, Nr. 1345).

Паводле справаздачы гданьскіх мяшчанаў, якія ў 1492 годзе прыбылі ў Вільню для сустрэчы з Казімірам Ягайлавічам і Панамі-Радаю ВКЛ, падчас перамоваў яны сутыкнуліся і з польскаю, і з літоўскаю, і з русінскаю (старабеларускаю) мовамі: *«Daruff wart manchfaldig handelt gehat itzundt Polnisch, itzundt Lithows, itzundt Reuszch»* (Hansisches Urkundenbuch, 1916: 364).

Грунтуючыся на гэтым выпадку сучасны літоўскі гісторык Артурас Дубоніс (2004: 209) сцвярджае, што *«вусны варыянт літоўскай мовы стаў – можна з упэўненасцю падкрэсліць, – адной з моў дыпламатыі ва Усходняй і часткі Цэнтральнай Еўропы»*. Але, як бачым са звароту Вітаўта да Ягайлы, вялікі князь літоўскі наўмысна перайшоў на літоўскую гаворку ў размове з польскім каралём, каб не быць зразуметым іншымі, замежнымі ўдзельнікамі нарады. У гэтым выпадку літоўская мова выконвала функцыю не дыпламатычнай, а крыптамовы.

Але ж у самім Вялікім Княстве частка літоўскай эліты ў XV стагоддзі яшчэ дбала пра тое, каб гаспадар мог зразумець мову сваіх балтамоўных падданых. Дзякуючы польскаму храністу Яну Длугашу мы ведаем, што калі ў 1440 годзе з Кракава ў Вільню прыбыў новаабраны вялікі князь Казімір Ягайлавіч, мясцовая знаць занялася навучэннем гаспадара літоўскай мове і звычаям (мясцоваму праву): «*Pauci qui remanserant, odio et arte Lithuanorum tempore succedente exclusi sunt, veriti, ne native affect plus esset Polonis quam Lithuanis affectus, officials Lithuanos adiungung et ipsum linguam et mores suos instruunt*» (Dlugossii, 2001: 256). Якой «літоўскай мове» маглі навучаць маладога Казіміра ў Троках паводле ацэнак Длугаша? Выглядае, што літоўскай у сучасным разуменні тэрміну, бо ў лацінскай тэрміналогіі ды польскай традыцыі вельмі добра размяжоўвалася «літоўскае» і «рускае» (у абодвух выпадках датычнае Вялікага Княства Літоўскага ў XV стагоддзі). Падобна таксама, што для маладога каралевіча першай ад нараджэння ў 1427 годзе ў Кракаве была польская мова. Абранне ж Казіміра вялікім князем літоўскім сталася магчымым дзякуючы ўдзелу ў гэтай палітычнай інтрызе такіх важных родаў літоўскага паходжання, як Кежгайлы, Гаштольды і Радзівілы (Ochmański, 1982: 113).

Але ўжо ў XVI стагоддзі адбыўся адыход ад такой моўнай практыкі. Да сярэдзіны гэтага стагоддзя літоўская мова выйшла з ужытку пры вялікакняскім двары (Дубоніс, 2004: 211).

## II. Пісьмовая мова катэхізацыі

Усе вышэй прыведзеныя прыклады тычыліся ўжывання вуснай мовы. Шэраг лінгвістаў мяркуе, што ўсе тыпы пісьма цалкам выходзяць за межы мовазнаўства і што гэтая навука мае абмежавацца вывучэннем толькі гукавай (гутарковай) мовы. Але канадскі даследнік Генры Алан Глісан праз сваю канцэпцыю дэскрыптыўнай лінгвістыкі даводзіць, што паміж маўленнем і пісьмом існуе цесная непарыўная сувязь (Глисон, 2002: 404). Пры вывучэнні і маўлення, і пісьма нярэдка выкарыстоўваюцца аднолькавыя метады, а іх структуры аказваюцца падобнымі ў шмат якіх аспектах. Усё ж неабходна вельмі выразна адмяжоўваць вуснае маўленне ад мовы пісьмовай і, у тым ліку ў гістарычных даследаваннях, асобна абумоўліваць гэты феномен – пісьмовую мову.

Вядомыя нам прыклады першай пісьмовай фіксацыі літоўскай мовы ў ВКЛ на пачатку XVI стагоддзя былі спарадычныя – яны датычаць рэлігійнай сферы і паўсталі ў асяроддзі францішканаў (Зинкявичюс, 1996: 100). Найстаражытнейшым ёсць запіс паўсядзённых малітваў, зроблены на апошняй старонцы кнігі «Tractatus sacerdotalis», выдадзенай на лаціне для святароў у Страсбургу ў 1503 годзе. Гэтая кніга належала францішканскаму манастыру ў Вільні, і аўтар запісу, хутчэй за ўсё, быў манахам (Зинкявичюс, 1999: 30). Гэты тэкст знайшлі не так і даўно — у 1962 годзе ў Бібліятэцы Віленскага ўніверсітэта.

Дыялекталагічны аналіз тэксту, калі верыць літоўскім даследнікам, указвае на паўднёвы ўсход Віленскага краю, на паласу Дзевянішкіс – Тробай – Лазунай і далей на тэрыторыю сучаснай Беларусі (Zinkevičius, 1988: 237–239).

Ужо ў апошняй чвэрці XX стагоддзя Сігітас Нарбутас знайшоў каля 100 кароткіх запісаў (асобных словаў і фразаў) па-літоўску, якія таксама паходзяць з пачатку XVI стагоддзя. Гэтыя запісы былі зробленыя ў лацінскай літургічнай кнізе, выдадзенай у

**Малюнак 1. Найстаражытнейшая пісьмовая фіксацыя літоўскага тэксту – запіс малітваў «Ойча наш» («Tėve mūsų»), «Багародзіца Дзева, радуйся» («Sveika Marija») і «Сімвал веры» («Tikiu ingi Dievą Tėvą») на апошняй старонцы лацінскай кнігі «Tractatus sacerdotalis» (Страсбург, 1503), Бібліятэка Віленскага ўніверсітэта (Zinkevičius, 2000: 71–73).**

1501 годзе ў Ліёне (Narbutas, Zinkevičius, 1989: 325–336). Запісы выкананыя адною і тою ж рукою, і почырк нагадвае той, якім быў зроблены найстаражытнейшы літоўскі запіс. Дыялекталагічна мова гэтых запісаў блізкая да гаворак рэгіёну Трокі – Эйшышкі (Zinkevičius, 1988: 239–240; Narbutas, Zinkevičius, 1989: 337–341). Яшчэ адна характэрная асаблівасць – як і ў выпадку з выданнем 1503 года, кніга 1501 года таксама належала францішканскаму кляштару, што сведчыць пра асаблівую ролю францішканаў, гэтага ордэну місіянераў і афіцыйнага жабрацтва, у выкарыстанні моваў розных этнічных супольнасцяў для далейшай катэхізацыі. У гэтым яны папярэднічалі езуітам эпохі Рэформы царквы (Контррэфармацыі).

Сігітас Нарбутас знайшоў яшчэ адзін кароткі літоўскі запіс у зборніку лацінскіх казанняў (Homilii). Гэты запіс-маргіналія быў зроблены паміж 1530 і 1579 гадамі (Narbutas, 1995: 56-59). Сам запіс вельмі кароткі, але Зігмас Зінкявічус ацэньвае яго як вельмі інфарматыўны (Zinkevičius, 1995: 62-65). Верагодна, гэты запіс зрабіў ксёндз Павел, пробашч касцёла святой Марыі Магдаліны, які прэзентаваў гэтую кнігу ў 1579 годзе кляштару францішканаў. У такім разе вынікае, што, магчыма, літоўскаю моваю карысталіся не толькі манахі ордэну францішканаў, але і парафіяльныя святары тых касцёлаў, дзе ў казаннях магла гучаць літоўская мова (Зинкявичюс, 1999: 31).

Цэнтральная ўлада імкнулася таксама, па магчымасці, да забеспячэння штату святароў у мясцовасцях, дзе жылі этнічныя літоўцы, асобамі, што валодалі літоўскаю моваю. Напрыклад, 3 жніўня 1511 года кароль і вялікі князь Жыгімонт у сваім распараджэнні намесніку Жыжмарскаму пісаў: «*Велели есмо в того костела жижморского мети каплана, што бы вмел по-литовский казати, и мистра*» (Lietuvos Metrika, 2003: 110–111, № 72). 27 студзеня 1524 года той жа манарх у прывілеі эйшышскаму плябану сярод іншага ўказваў, каб каплан мог звяртацца да парафіянаў па-літоўску: «*…presbyteros idoneos, quorum saltem unus idiomate Lithuanico praedicare populo Dei bene sciat et debeat*» (Lietuvos Metrika, 2001: 559, № 720).

Чаму ж забеспячэнне літоўскамоўнымі святарамі было такое актуальнае для ўнутранай палітыкі вялікіх князёў? Рэч у тым, што ў рамках каталіцкай традыцыі літургія ў касцёле адбывалася на лаціне, але непасрэдна звяртацца да парафіянаў трэба было на мове, якую яны разумелі.

Праўдападобна, што і ў ранейшыя перыяды хрысціянізацыі Літвы ад місіянераў патрабавалася веданне літоўскай мовы. Кажам тут «перыяды», бо ў адной з апошніх сваіх працаў «Вытокі хрысціянства ў Літве: Хрысціянства ўсходняга абраду паводле звестак анамастыкі» Зігмас Зінкявічус паказвае, што яшчэ да афіцыйнага хросту Літвы ў 1387 годзе ўсходнехрысціянская хваля была «*выключна інтэнсіўная і пакінула глыбокія сляды ва ўсёй гісторыі літоўскага народу*» (Zinkevičius, 2005: 76–77). Пра гэта сведчыць найстаражытнейшы пласт царкоўнай тэрміналогіі літоўскай

мовы, які з'явіўся разам з пранікненнем хрысціянства ўсходняга абраду: Kalėdos (Каляды), kūčios (куцця), Velykos (Вялікдзень), krikštas (хрост), bažnyčia (бажніца) (Zinkevičius, 2005: 8–11).[1] Таксама цэлы шэраг літоўскіх асабовых імёнаў звязаны з распаўсюджваннем усходняга хрысціянства (Грумадене, 2005: 202–204).

Руцэ Зігмаса Зінкявічуса, апроч іншага, належыць рэканструкцыя працэсу перакладу першых хрысціянскіх малітваў на літоўскую мову (Zinkevičius, 1996: 51; Zinkevičius, 2000). Аўтар даводзіць, што гэтыя пераклады былі зробленыя яшчэ ў часы караля Міндоўга і традыцыя выкарыстання гэтых малітваў ніколі не перапынялася. Падобная канцэпцыя выглядае лагічнай і досыць верагоднай. Але трэба дадаць, што гэта ўсё ж рэканструкцыя, і найбольш раннюю фіксацыю тэкстаў літоўскіх малітваў мы маем у той самай кнізе 1503 года.

Падобная дэталізаваная оптыка, наведзеная на помнікі пісьмовасці Вялікага Княства Літоўскага, дазваляе нам знаходзіць пацвярджэнні фіксацыі асобных выпадкаў ужывання літоўскай мовы. Але, разам з тым, гэтыя прыклады толькі акцэнтуюць увагу на публічна абмежаваным статусе літоўскай мовы. Агульная сацыялінгвістычная і палітычная сітуацыя, як вынікае ў тым ліку і з пазітыўных прыкладаў фіксацыі, не была спрыяльная для функцыянавання літоўскай мовы на дзяржаўным узроўні.

Сучасны польскі гісторык Гжэгаж Блашчык, аналізуючы выкарыстанне розных моваў у ВКЛ, нават робіць акцэнтаваную выснову пра тое, што літоўская мова «*не мела шанцу на існаванне як дзяржаўная*» (Błaszczyk, 2002: 305). А літоўскі гісторык Антанас Тыла, кажучы пра адкрытасць Вялікага Княства Літоўскага як дзяржавы, адзначае: «*але ж яно занадта мала клапацілася ў той час пра захаванне і развіццё этнічнай культуры літоўцаў*» (Тила, 1996: 5). Апісваючы такую выбітную падзею, як з'яўленне ў 1547 годзе ў Каралеўцы (Кёнігсбергу) першай друкаванай літоўскай кнігі «Catechizmusa prasty szadei...» («Простыя словы катэхізіса»), выдадзенай Марцінам (Марцінасам) Мажвідасам (Mažvydas, 1974), Юратэ Кяўпене


CATE
CHISMVSA PRA
KARALIAVCZVI
M. D. XLVII.

**Малюнак 2. Тытульны аркуш «Катэхізіса» Марціна Мажвідаса (1547 г.)**

---

1 Застаецца дадаць, што большасць прыведзеных Зінкявічусам словаў мае беларускія формы, пра што літоўскі лінгвіст не піша, спасылаючыся толькі на грэцкія і ўсходнеславянскія крыніцы запазычання.

адзначае: «*Дадзены М. Мажвідасам у сярэдзіне XVI стагоддзя імпульс не знайшоў водгаласу ў Літве*» (Kiaupa, Kiaupienė, Kuncevičius, 1998: 186).

## III. Пачаткі літоўскага кнігадрукавання

Адзін з вершаў, змешчаных выдадзеным Марцінам Мажвідасам «Catechizmusa prasty szadei…» («Простыя словы катэхізіса»), меў прысвячэнне «Ad Magnum Ducatum Lituaniae» («Да Вялікага Княства Літоўскага»):

AD MAGNVM
DVCATVM LITVANIAE

*Fausta ducum magnorum altrix, Lituania clara,*

*Haec mandata Dei, suscipe mente pia,*

*Ne te, cum dederis rationes ante tribunal*

*Augustum, magni iudicis ira premat.*

ВЯЛІКАМУ
КНЯСТВУ ЛІТОЎСКАМУ

*Шчаслівая радзіма вялікіх князёў, слаўная Літва,*

*Гэты наказ Божы прымі з настроем,*

*Каб цябе, калі паўстанеш перад судом*

*Высокім, не раздушыў бы гнеў вялікага суддзі.*

Марцінас Мажвідас быў беглым пратэстантам з Жамойці, і таму зразумела, што мова ягонай кнігі нясе адбітак жамойцкіх гаворак. У выніку можна сцвярджаць, што гістарычна літоўскае кнігадрукаванне пачалося з жамойцкага. У далейшым жа ў аснову літоўскай літаратурнай мовы ляглі найбольш архаічныя заходнеаўкштайцкія гаворкі.

AD MAGNVM
DVCATVM LITVANIAE

Fausta ducum magnorum altrix, Lituania clara,
Hæc mandata Dei, suscipe mente pia,
Ne te, cum dederis rationes ante tribunal
Augustum, magni iudicis ira premat.

**Малюнак 3. Вершаванае прысвячэнне Марціна Мажвідаса Вялікаму Княству Літоўскаму («Catechizmusa prasty szadei…»)**

Кніга Мажвідаса паходзіла са сталіцы Прускага герцагства. І ў далейшым у XVI стагоддзі статыстыка друку кніг на літоўскай мове была на карысць Каралеўца – да канца стагоддзя там выдалі 22 кнігі, у той час як у самім Вялікім Княстве – 8 (Zinkevičius, 1988: 9); паводле Марыі Тапольскай (Topolska, 2002: 169–170): 32 і 14 кніг адпаведна. Традыцыя літоўскамоўнага кнігадрукавання ў ВКЛ была запачаткаваная ў 1595 годзе Мікалаем Даўкшам (Мікалаюсам Даўкшасам), які коштам Жмудскага біскупа Мельхіёра Гедройця (Ulčinaitė, 1999: 444–453; Lukšaitė, 1999: 404) выдаў уласны пераклад «Катэхізіса» іспанскага езуіта Якуба Лядэсмы «Kathechismas arba mokslas kiekwienam priwalvs» (Mikolajus Daukšos, 1995; Lebedys, 1963).

У XVII стагоддзі сітуацыя змянілася. Розныя даследнікі даюць крыху адрозныя звесткі, але агульная тэндэнцыя, што праяўляецца ў іх, нязменная. Паводле польскай даследніцы гісторыі кнігадрукавання Марыі Тапольскай (Topolska, 2002: 169–170), да 1660 года ў Прусіі выдалі яшчэ 20 кніг па-літоўску, а ў ВКЛ – ужо 25. Літоўскі лінгвіст Зігмас Зінкявічус (Zinkevičius, 1988: 9), а ўслед за ім расійскі філолаг і балтыст Уладзімір Тапароў (Топоров, 1999: 237) называюць 22 кнігі ў Прусіі супраць 32 у ВКЛ. Але ж у XVIII стагоддзі першынства «Малой Літвы» ў Прусіі перад Вялікім Княствам Літоўскім аднавілася – 243 выданні супраць 167.

Пры гэтым мова літоўскіх кніг, што друкаваліся ў дастаткова кампактнай Прусіі, была, як адзначаюць лінгвісты, даволі чыстая і больш аднародная, чым на прасторах Вялікага Княства, дзе дыялектныя асаблівасці выяўляліся ў большай ступені. У тым ліку менавіта таму літоўская нацыянальная свядомасць пачала выспяваць менавіта ў Прусіі, а сучасная літоўская агульнанацыянальная літаратурная мова нясе на сабе вельмі моцны адбітак мовы літоўцаў так званай Малой Літвы – тэрыторыі ў былым Прускім герцагстве (Palionis, 1967: 7; Zinkevičius, 1988: 9; Топоров, 1999: 237).

Каб зразумець прычыну цікавасці прускіх герцагскіх уладаў да літоўскага кнігадрукавання, трэба ўзяць да ўвагі пратэстанцкую канцэпцыю беспасярэдняга звароту чалавека да Бога і персанальнага асэнсаванага чытання Святога Пісання. Такая практыка якраз і патрабавала шырокай пісьменнасці вернікаў і друкавання святых тэкстаў на народных мовах, незалежна ад іх сацыяльнага статуса.

У самім ВКЛ пачынаюць выдавацца такія важныя для нармалізацыі мовы кнігі, як слоўнікі, напрыклад першы слоўнік літоўскай мовы (польска-лацінска-літоўскі) «Dictionarium trium linguarum» езуіта і прафесара Віленскай акадэміі Канстанціна Шырвіда (Канстанцінаса Шырвідаса). Першае выданне выйшла ў свет у Вільні каля 1620 года і было разлічанае на студэнтаў, якія вывучаюць паэтыку і рыторыку. Слоўнік змяшчаў каля 1400 словаў і быў настолькі папулярны, што перавыдаваўся ў 1629, 1631, 1642, 1677 і 1713 гадах. Але гэтая папулярнасць мела і адваротны бок – да сярэдзіны XIX стагоддзя слоўнік Шырвіда заставаўся адзіным надрукаваным у ВКЛ слоўнікам літоўскай мовы, іншыя ж літоўскія слоўнікі выдаваліся ў Прусіі.

Характэрная рыса – аўтары літоўскіх выдавецкіх ініцыятываў




**Малюнак 4. Тытул трохмоўнага літоўскага слоўніка «Dictionarium trium linguarum in usum studiosae juventutis» аўтарства Канстанціна Шырвіда. Выданне 1713 года.**

публічна абгрунтоўвалі матывы сваёй дзейнасці. У сваёй галоўнай працы – перакладзе «Postilla Catholica. To iest Kazania na Ewangelie Niedzielne» польскага езуіта, тэолага Якуба Вуека – літоўскі каталіцкі святар і асветнік Мікалай Даўкша (Вільня, 1599) (Daukšos Postilė, 1926) змясціў дзве прадмовы, адна з якіх была скіраваная на абарону роднай мовы. Менавіта мову Даўкша лічыў неабходнаю ўмоваю існавання народу і атаясамліваў яе з паняццем Радзімы. Такі патрыятычны падыход падаецца нечаканым, больш адпаведным сучасным уяўленням. Высвятляецца, што этнічная свядомасць у XVI стагоддзі мела праявы сярод адукаваных элітаў Вялікага Княства Літоўскага, якія разумелі яе сувязь з дзяржаўнымі інстытутамі, пра што сведчаць і Беларуска-літоўскія летапісы.




**Малюнак 5. Тытульны аркуш літоўскага перакладу «Пасцілы каталіцкай» Якуба Вуека, выдадзенага Мікалаем Даўкшам.**

## IV. XVI стагоддзе: Дзе месца літоўскай мовы?

Як мы бачым з прыкладу судовага следства 1529 года, можна казаць пра білінгвізм этнічных літоўцаў, якія апроч ведання роднай мовы былі здольныя разумець таксама афіцыйную мову справаводства ВКЛ (у гэтым выпадку, зразумела, гаворка ідзе не пра эліту – Паноў-Раду, якія былі, безумоўна, лінгвістычна кампетэнтныя). Больш за тое, некаторыя ўраднікі цэнтральнага апарату ВКЛ нелітоўскага паходжання на функцыянальным узроўні таксама маглі валодаць вуснаю літоўскаю гаворкаю, каб мець магчымасць эфектыўна выконваць свае службовыя абавязкі. Прынамсі, вядома, што дэцкі Васіль Бялянін быў «русінам» ВКЛ з паходжання.

Важнай ілюстрацыяй працэсу ўзаемаўплыву моваў ёсць запазычанні. Тут таксама існуюць пэўныя разыходжанні ў статыстыцы. Беларускія мовазнаўцы адзначаюць асіметрыю беларуска-літоўскіх (славяна-балцкіх) уплываў. Працяглае суіснаванне на тэрыторыі сучаснай Беларусі карэннага балцкага насельніцтва з прыбылымі славянамі абумовіла фарманне ў мове першых значнага паводле аб'ёму суперстрату,[2] а ў мове-

[2] Суперстрат – уплыў мовы прышлага насельніцтва на мову карэннага ў выніку культурнага панавання нейкай этнічнай супольнасці, якой не хапіла крытычнай масы для асіміляцыі гэтага карэннага насельніцтва. Пры гэтым мясцовая моўная традыцыя не абрываецца, але ў ёй адчуваецца іншамоўны уплыў (у рознай ступені і на розных узроўнях).

пераемніцы другіх – балцкага лексічнага субстрату[3] (Лексічныя балтызмы, 1969; Булыка, 1980; Лаучюте, 1982). У той час як у старалітоўскай мове словы беларускага паходжання складалі значны пласт, у старабеларускай мове літоўская лексічная плынь абмяжоўваецца чатырма дзясяткамі адзінак (Свяжынскі, 2005: 60).

У сваю чаргу Канстанцінас Яблонскіс у сваёй працы, а таксама ў яшчэ не апублікаваных матэрыялах зафіксаваў каля 250 літуанізмаў у канцылярскай (старабеларускай) мове (Зинкявичюс, 1996: 73). Хутчэй за ўсё, гэтыя разыходжанні звязаныя з розніцай у абранай тэрыторыі, па якой даюцца звесткі. Найбольш літуанізмаў Яблонскіс зафіксаваў у дакументах, створаных на тэрыторыі этнічнай Літвы. А ўжо за межамі гэтай тэрыторыі іх колькасць набліжаецца да пяцідзесяці. Варта адзначыць, што працягваецца маштабны праект выдання «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы» (1982–2011), і колькасць выяўленых лексічных літуанізмаў, відавочна, будзе павялічвацца. Галоўная прычына з'яўлення літуанізмаў у старабеларускай мове – існаванне спецыфічных сацыяльных і эканамічных з'яваў у ВКЛ. Гэта тыя рэаліі, якім трэба было даваць назвы для дакументавання працэсаў, што адбываліся.

У некаторых позніх актах (сярэдзіны XVI–XVII стагоддзяў) апроч літуанізмаў часам сустракаюцца цэлыя літоўскія фразы, запісаныя кірыліцаю, як, напрыклад, у Судовых актах Вількамірскага (Укмергскага) замка 1623 года: «*Жыноки ку нежыдеси илкгай ант ся света*» («*Ведай, што доўга не будзеш квітнець на гэтым свеце*») (Зинкявичюс, 1996: 74). Як бачым, была запісаная менавіта прыказка. Такім чынам, у канцылярскіх установах Вялікага Княства Літоўскага XV–XVII стагоддзяў так і не ўзнікла ніводнага акта, цалкам створанага на літоўскай мове і адрасаванага жыхарам сваёй дзяржавы. Хоць дакументы фіксуюць абмежаванае бытаванне вуснай літоўскай мовы ў публічнай сферы ў XVI стагоддзі.

Магдэбургская дакументацыя сведчыць, што ў гарадскім жыцці Коўна і Вільні ў XVI стагоддзі літоўская мова была адною з моваў вуснай камунікацыі. Віленскі вількюр (гарадскі статут) ад 18 лістапада 1551 года пастанаўляў, каб выклік на суд і вырак суда абвяшчаўся «*po polsku i po litewsku, i po rusku, aby wszyscy, ktorzy by słuchali, rozumieli*» (Dubiński, 1788: 96). У Коўне прывілей 1540 года вызначаў публічнымі мовамі польскую і літоўскую (Kiaupa, 2000: 28). Зразумела, што менавіта ў Коўне літоўская мова мела найбольш моцныя пазіцыі. Крыніцы 1562 года паведамляюць пра польскага хлопчыка, які навучаўся літоўскай мове ў сям'і літоўцаў, а ў 1567 годзе такім жа чынам літоўскай і польскай мовам навучаўся нямецкі хлопчык (Lebedys,

[3] Субстрат – уплыў мовы карэннага насельніцтва на іншую мову, звычайна пры пераходзе супольнасцяў з першай мовы на другую. У адрозненне ад запазычання прадугледжвае шырокае этнічнае змяшэнне і моўную асіміляцыю прышэльцамі карэннага насельніцтва праз стадыю двухмоўя.

1976: 192). Апроч гэтага, няведанне літоўскай мовы сталася прычынай адстаўкі ў 1538 годзе лаўніка Ковенскай магдэбургіі немца Андрэаса Войта: *«...er sproch halben dem, er im litauischen nicht wol erfaren sei»* (Дубоніс, 2004: 217). Рашэнне Віленскага магістрата пра пошліны, заверанае ў 1522 годзе Жыгімонтам Аўгустам, прадугледжвала, што складзены акт мусіў агучвацца герольдамі на польскай, «рускай» і літоўскай мовах, каб усе, каго гэта тычылася, зразумелі змест дакумента. Такім чынам, пры агучванні акт перакладаўся з мовы канцылярыі – польскай, старабеларускай або лаціны.

Паўторымся – у гэтых выпадках размова ідзе менавіта пра гутарковую форму мовы. Неразмежаванне вуснай і пісьмовай формаў мовы ды іх функцыяў можа прывесці да спрэчнай канцэпцыі, паводле якой гісторыкі абвяшчаюць літоўскую мову адною з афіцыйных моваў ВКЛ, адначасова адкідаючы само паняцце дзяржаўнай мовы ў дачыненні да XV–XVII стагоддзяў, як гэта робіць Артурас Дубоніс (2004: 205–219).[4] Хоць сам аўтар канцэпцыі акрэслівае агульную сацыялінгвістычную сітуацыю ў ВКЛ: «*Такім чынам, падобна на тое, што мы маем справу з лінгвістычным супольным жыццём (суіснаваннем) і раўнавагаю, якія склаліся за стагоддзі ў ВКЛ, а не з праблемаю дзяржаўнай мовы. Улады клапаціліся пра падтрымку полілінгвізму*» (Дубоніс, 2004: 218).

## V. Моўныя эксперыменты і практыкі XVII–XVIII стагоддзяў

Такім чынам, цягам XVI стагоддзя мы можам назіраць вельмі цікавыя і адначасова супярэчлівыя культурныя працэсы. Веданне літоўскай гаворкі было неабходным чыноўнікам сярэдняга звяна для кваліфікаванага выканання службовых абавязкаў у асобных рэгіёнах ВКЛ, але літоўская мова так і не змагла здабыць статуса адной з афіцыйных канцылярскіх моваў Княства. І гэта адбывалася ў эпоху, калі ўжо ўзнікла літоўскае кнігадрукаванне (праўда, у Прусіі) ды пачалі адпрацоўвацца літаратурныя нормы пісьмовай літоўскай мовы. Але XVII стагоддзе прыўносіць сюды пэўныя навацыі, што праўда, яны пакідаюць яшчэ больш пытанняў.

За часамі караля і вялікага князя Уладзіслава IV Вазы з'яўляюцца першыя афіцыйныя дакументы ВКЛ, выдадзеныя па-літоўску. Гэта пасланні Уладзіслава IV 1639 і 1641 гадоў, якія пашыраліся ў Прусіі. Ва ўніверсале ад 22 сакавіка 1639 года (Pakarklis, 1960: 58–59, il. 2; Kulnytė, 1990: il. 158) манарх Рэчы Паспалітай забараняе сваім падданым, а найперш меліся на ўвазе жыхары Мазураў і Падляшша, палягаць у лясах Прускага герцагства.

Універсал ад 22 жніўня 1641 года (Pakarklis, 1960: 58–59, il. 3) сведчыць пра імкненне цэнтральнай улады абмежаваць перасяленне сялянаў з Рэчы Паспалітай у Прусію, і ў сувязі з

4 Глядзі таксама дыскусію, выкліканую гэтым тэкстам (Свяжынскі, 2004: 220–227; Дзярновіч, 2004:12–17).

гэтым праводзіцца падзел судовай кампетэнцыі паміж дзвюма дзяржавамі. Абедзве гэтыя граматы былі надрукаваныя ў Прусіі ды прускімі ўладамі гатычным шрыфтам, прынятым у Прусіі. Відавочна, што гэтыя ўніверсалы, падрыхтаваныя ў каралеўскай канцылярыі Уладзіслава IV (хутчэй за ўсё, на лаціне), былі перакладзеныя на літоўскую мову ў Прускай канцылярыі ды выдадзеныя з захаваннем актавага пратакола, з пазначэннем нават месца пячаткі – L. S. Як бачым, і гэтыя літоўскамоўныя ініцыятывы сыходзілі з прускага боку. Тым больш што менавіта ў Прусіі яшчэ з XVI стагоддзя існавала практыка выдання афіцыйных дакументаў па-літоўску.

Але ж на XVII і асабліва на XVIII стагоддзе прыпадае час выдання літоўскіх лемантароў. Першы такі дыдактычны матэрыял быў складоваю часткаю Катэхізіса Мажвідаса, у якім на чатырох старонках змяшчаліся алфавіт і практыкаванні для чытання складоў. Другі літоўскі лемантар зноў быў складоваю часткаю катэхізіса «*Pradzia pamoksla del Mazu Weykialu... Katechizmas maziasnis...*» («*Пачатак казання для малых дзетак... Катэхізіс малы...*»), падрыхтаванага кальвіністамі ВКЛ (магчыма, Самуэлем Бітнэрам), але выдадзенага зноў жа ў Каралеўцы ў 1690 годзе з фундацыі Людвікі Караліны Радзівіл – прадстаўніцы Біржанскай кальвінскай часткі княскага роду ВКЛ. Гэты катэхізіс задарма


Isch Diewo malones / mes Jurgis Fridriks / Marggrabas Brandenburge / Prususu / Stecine Pomeranioie / Kassubuir Slawoku / teipaieg / Schlesijoie Jegerdorffe Hercikis etc. Burggrabas Nürnbergos / ir Hercikis Szemes Rugijos / wissiems ir koßnam musu Storastiems / bei Vriednikams / loska ir wissa gera pran:schdami / dûme ßinne: Kaczei mes isch musu Prusischkos kancleriijos tikrai ßinnam / iog pirmai scha czesa / stiprei ir bepaliaubimo praschantiemus kromnikams tutetschniems / isch wißu Miestû schos musu Hercekistes Prusû / musu mielas Ponas Dede bei Tiewas / Marggrabas Elbrekts wiresnis Brandenbürge / didei paschlowintos atminties / kiek kartu / prisakens est / idant Schottams / kurie kittiems krommikams tutetschniems / ant didzios Iskados / ir patrotos in paelgistes / musu Szemeie / apracziowonais Jarmarkieis / pabuteis ir pakiemeis landineti / vsakita turetu buti: Tacziau tikrai ßinnama ira / iog prisch tankei dûtus Prisakimus / ir Szemes musu Statutus / daugia Schattu wissur pabuteis kromnes rieczes neschodami / landineij / ir teip ne tiktai kittiems tutetschniems krommikams / dide iskada dara / bet ir musu nebagus padonus tulame prigaudineij ir wilioij / kaip anis delei tho tulais daiktais priwedami ira. Todelei pareitis / mumus / kaip Szemes Kunnigaikschczui / take iskada / kuri tutetschniems krommikams ir padanams musu / per Schattus / wissus kampus ischlandineienczius / darama ira / ilgiaus ne nukenteti: Tûgi norim schitû Prisakimu / wißus musu Storastus / Burgamistrus / Sudzias / Waitus / ir kitus Vriednikus / Miestosu ir kiemosu pirmump musû Diewep essanczio Pono Dedes ir Tiewo ischdûtuiu Mandadumpi / ir potam naniosp Ordinaciosp musû Szemes / nuraditi: malonei ir drutai prisakidami / idant ius pagal dabar minetu Mandatu / ir musu Ordinacios / nûg scho czieso elgtumbities. Jr iei priesch thas Schattai / graudinimo schito nadbodami tawora sawa pabuteis neschineti neliausis / anus kaip pareitis be su similimo pakarotumbit / iemus Tawora atimdami ir ußlaikidami. O wienok schitû Mandatu Schattams Jarmarkiei iowoniezhi / netur ußdrausti buti. Bet anis thas / kaip isch senu dienu dare est / gal atlankiti. Tam ant pastiprinogimina / mes sawa peczeti ant scha raschta liepem vßdeti / Dita zz. diena Septembrio / Metu Diewo 1589.

**Малюнак 6. 22 верасня 1589 года. Пастанова Прускага герцага Георга Фрыдрыха пра забарону гандлю на прысядзібных падворках. Па-літоўску.**

распаўсюджваўся ў кальвінскіх школах паўночнай часткі Літвы. Яшчэ адзін літоўскі лемантар надрукавалі ў Каралеўцы ў 1708 годзе, але менавіта для лютэранскіх школаў Прусіі.

У Вялікім Княстве зноў жа спазняліся з выданнем лемантароў. Маюцца звесткі, што ў Вільні ў друкарні францішканаў у 1752 годзе апублікавалі лемантар жмудскі, але ён не захаваўся. Першы ж вядомы каталіцкі лемантар «*Moksłas skaytima raszto lękiszko del mazu waykialu = Nauka czytania pisma polskiego dla małych dziatek*» («*Навука чытання пісьма польскага для малых дзетак*») быў выдадзены ў Вільні паміж 1759–1761 гадамі. Як бачым, гэты лемантар арыентаваўся на навучанне літоўскіх школьнікаў асновам польскай мовы і на 64 старонках змяшчаў паралельныя тэксты па-літоўску і па-польску. Менавіта з гэтай кнігі пачынаецца сістэматычнае перавыданне літоўскіх лемантароў для пачатковых школаў ВКЛ (захаваліся выданні 1763 і 1766 гадоў). Нарэшце, наступае момант, калі з дзвюхмоўных лемантароў выпала польская частка – і ў выданні 1783 года яе ўжо няма. Што праўда, дакладнай даты


Mes Wladislaus/ Ketwirtassis Isch Diewo Malo-

Wladislaus Karalius.

L. S.

**Малюнак 7. 22 сакавіка 1639 года. Кароль польскі і вялікі князь літоўскі Уладзіслаў IV Ваза забараняе сваім падданым паляваць у лясах Прускага герцагства. Друкаваная ўлётка, па-літоўску (Прусія).**



Wes Wladislaus Ketwirtasis/ iß Diewo malones Karalius Lenku/ didysis Kunigaykßtis
Lietuwosa/ Guddûsa/ Prusûsa/ Mozurûsa/ Zemaitzûsa/ Jnflantûsa/ Smalenskoje/ ir Czernichawoje
priegtam ir Szwiedu/ Gotu bei Wandalu tewikßtinis Karalius.

P: Xaneßam/ ir zinne dûme wissiemus padraugey/ ir koznam ipaczey/ kuriemus toktay zinoti prigul; Wissu daugiáusey betaig wissiemus Dignitariams/ alba wertysteje stantiemus/ ir Uredinkams/ taip Zemesa/ kaip Pillisa/ ir kittiemus/ kurios tiktay wertystes tie patis buti gál/ Kurû budu Czettringi Ponai/ wiresn. waldzioghimo Kotininkai Ercikystes Prusu/ wardana zemes tos Bajoru/ musip daznay ir didey pasiskunde ira/ Jog aniemus nûg parubezinu Kaimimu ir Suseidu/ kaip musu padonu/ daug Kriwidos/ Jßkados ir per abyda nusidûdasi ir padaroma trazkûmetu daznay nekûrie ing anu Jmenus ir Turtus inbegioy ir insiwerziasi/ kurie pleßia/ ißieroy ir pagreb; potam ir tupaczu Padonai/ Czizininkai ir Sluzauninkai/ kurie nûg ju begte pabege/ nûg musu Padonu ne wel ißdûdami; taipo ir nekurie Prusißku Zmoniu/ kaczeyg dideje Kunigaykßtysteje Lietuwos ne jokios tur Sodybos/ ir tosp ne prikiausa/ taczau tenay ing wissokias Karalystes ir Zemju Prowas/ Judicia tribunalitia & terrestria wadinamas/ paßaukiami/ ir pawadinami; ir kadda ne atteiti ir nesitoda/ kaip nepaklusnieghi/ ir prieß pasistengentieghi/ alba kaipantay kalba/ in contumaciam nusudijami ira. Kadangi betaig toktay prieß wissokia teisybe ira; Todelei nûg jusu wiernystes maloningay norim/ ir taipo nusidûti geidziam/ idant jus/ ikki koley taip musu/ kaip ir iß Ercikystes Prusu paskirtieghi Dumczei ant Rubeziu susteists/ pakaghingay ir nurimdami giwentumbit/ ir tokius gwoltawoghimus/ jû maziaus betaig plesimus ir pagrebimus tolaus darriti ne apsiimiumbit/ bet geriaus kiek primanidami wissa proce ane to taisitumbit/ idant wis/ ir koznas daiktas/ kas Zmonemus/ Ercikysteje Prusu giwenantiemus/ per abyda ir pagrebima attimta ira/ ghiemus weikiaus wel atgrazinta ir atesta butu: Taipo ir ju pabegtûsus Padonus wel ißdûtumbit/ noredami ißwengti musu Kerßta/ ir pagaley jusu kalta Paklusnuma. Jßdûtas Warßawoje/ 22. dienoj Menesio piumenes/ po uzgimimo Chrißtaus 1641. Karalystes musu Lenku dewintûsa/ Szwiedu betaig deßimtûsa metûsa.

Vladislaus Rex.

L. S.

Stanislaus Narufzewic
Notarius.

Wie nun obige Universales von Wort zu Wort enthalten; Also hat ein Jedweder sich darnach zurichten/ vnd auch an seinem Orte denselbem gemeeß zuverhalten. Vhrkündlichen mit vnserm Churfürstlichen Secret bestettiget/ vnd geben Königsberg den 27. Septembr. Anno 1641.

**Малюнак 8. 22 жніўня 1641 года. Кароль польскі і вялікі князь літоўскі Уладзіслаў IV Ваза абмяжоўвае перасяленне сялянаў з Рэчы Паспалітай у Прускае герцагства. Друкаваная ўлётка, па-літоўску (Прусія).**

з'яўлення толькі літоўскамоўнай версіі лемантара мы не ведаем, хоць і мяркуецца, што гэта адбылося цягам 1766–1776 гадоў. Надалей лемантар называўся ўжо «*Moksłas skaytima raszta lietuwiszka dieł mazu wayku*» («*Навука чытання пісьма літоўскага для малых дзетак*»).

Надалей, цягам 1776–1790 гадоў у Акадэмічнай (універсітэцкай) друкарні гэтыя лемантары штогод выдаваліся накладам ад 325 да 2350 асобнікаў (у сярэднім – каля 1000 асобнікаў). І хоць попыт на пачатковую польскамоўную адукацыю быў большы (наклады польскіх лемантароў вагаліся ад 510 да 2805 асобнікаў, сярэдні наклад – 1600 асобнікаў), такое пашырэнне літоўскіх лемантароў было сапраўдным поспехам літоўскамоўнай адукацыі.

Адначасова набірала дынаміку і літоўскае кнігадрукаванне. З сярэдзіны XVII стагоддзя колькасць літоўскамоўных кніжак павялічвалася з кожным дзесяцігоддзем. Цягам 1750–1759 гадоў выйшлі з друку 46 выданняў (21 назва), у 1760–1769 гадах – 40 выданняў (21 назва), у 1770–1779 гадах – 59 выданняў (31 назва) (Urbelionienė, 1985: 128; Narbutas, 2006: 330).

Адначасова набірала дынаміку і літоўскае кнігадрукаванне. З сярэдзіны XVII стагоддзя колькасць літоўскамоўных кніжак павялічвалася з кожным дзесяцігоддзем. Цягам 1750–1759 гадоў выйшлі з друку 46 выданняў (21 назва), у 1760–1769 гадах – 40 выданняў (21 назва), у 1770–1779 гадах – 59 выданняў (31 назва) (Urbelionienė, 1985:128; Narbutas, 2006:330).

Увогуле, гэта была гердэраўская эпоха з яе павышанаю цікавасцю да этнічных праяваў і, адпаведна, ідэяў дэмакратызацыі адукацыі. Нямецкі гісторык культуры Ёган Готфрыд Гэрдэр (1744–1803) не так добра ўяўляў месца балцкіх моваў у гісторыі індаеўрапеістыкі, але бачыў іх архаіку і каштоўнасць: «*Паходжанне літвы,*


MOKSŁAS
NAUKA
SKAYTIMA RASZTO LĘKISZKO
CZYTANIA PISMA POLSKIEGO
DEL MAZU WAYKIALU
DLA MAŁYCH DZIATEK
Kuremy w którey
Padieti ira wyfoki mokflay Krykščionifzki,
Położone fą rożne nauki Chrześćiańfkie,
Taypogi ir Nabożeństway trumpi kožnos dienos
Także i Nabożeństwa krótkie każdo dźienne
Wirams ir moterims flužijętes.
Męfczyznom i kobietom fłużące.
Idant Aby
Mokidamife fkaytiti, ifzmoktu pradžiu
Ucząc fię czytać, nauczył fię początków
Mokfla Krykščionifzka, ir Nabożeństwas
Nauki Chrześćiańfkiey i Nabożeństwa
KOZNOS DIENOS
CODZIENNEGO
Dabar naujey pardrukawotas wyfokiu rafztu
Teraz przedrukowana różnym pifmem
LĘKISZKU
POLSKIM
WILNIUY
Drukarniey J.K.M. Akademios Societatis JESU
Metuofe 1763.

Малюнак 9. Тытульны аркуш дзвюхмоўнага (польска-літоўскага) лемантара. Вільня, 1763 год.


MOKSŁAS
SKAYTIMA RASZTA LIETUWISZKA
DIEŁ MAZU WAYKU
KOREMI PADIETI IRA WISOKI
MOKSŁAY KRYKSCIONISZKI,
TEYPOGI YR TRUMPAS
NOBAZENSTWAS
KOZNOS DIENOS.
WIRAMS YR MOTERIMS
SŁUZIJĘTES.
NAUJEY PARDRUKAWOTAS
WILNIUY
Metusy 1783.

Малюнак 10. Тытульны аркуш літоўскага лемантара. Вільня, 1783 год.

**Табліца 1. Наклады лемантароў (паводле кніг прыбыткаў і выдаткаў друкарні Галоўнай школы Літвы – Віленскага ўніверсітэта, 1776–1790 гады)**

| Год | 1776 | 1777 | 1778 | 1779 | 1780 | 1781 | 1782 | 1783 | 1784 | 1785 | 1786 | 1787 | 1788 | 1789 | 1790 | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Літоўскія лемантары | 560 | 1500 | 325 | 795 | 1020 | 950 | 1640 | 788 | 325 | 820 | 980 | 750 | 945 | 1360 | 2350 | **15108** |
| Польскія лемантары | 510 | 1535 | 2270 | 3016 | 1370 | 870 | 2196 | 1030 | 610 | 1055 | 1695 | 990 | 2625 | 1890 | 2805 | **24467** |

*Крыніца*: (Urbelionienė, 1985: 128).

*куры і летаў, якія жывуць на Усходнім* [Балтыйскім. – ***А.Дз.***] *моры, не вядомае, але, відаць, іншыя народы цяснілі іх да таго часу, пакуль ужо не было куды выцясняць. Хоць мова іх змешаная, у яе ёсць асаблівы характар, мова гэтая – атожылак найстаражытнай матэрыі, паходжаннем з далёкіх мясцінаў*» (Гердер, 1977: 465).

Увогуле ж, у XVIII стагоддзі паводле лінгвістычнай наменклатуры тэрмін «літоўская мова» быў вельмі выразна замацаваны менавіта за тою балцкаю гаворкаю, якую мы сёння разумеем як літоўскую мову. На сваёй мапе «Europa Polyglotta. Linguarum Genealogiam ex hibens, una cum literis, scribendiques, modis, omnium gentium» нямецкі лінгвіст Готфрыд Гэнзэль (1724–1785) размеркаваў мовы Еўропы і даў прыклады іх паводле алфавітаў і першых радкоў малітвы «Ойча наш» (Hensel, 1741). Словы «Tewe musu kursey esi danguy. Szweskis wardas Tawo» пад надпісам «Lithuanica» не пакідаюць сумнення наконт моўна-этнічнай інтэрпрэтацыі тэрміну.

Усё ж дзяржаўны механізм ВКЛ і Рэчы Паспалітай не стымуляваў такіх працэсаў, і літоўская мова вельмі павольна прабівалася ў афіцыйныя інстытуцыі. Трэба было нейкае ўзрушэнне,




**Малюнак 11. Карта Готфрыда Гэнзэля «Europa Polyglotta. Linguarum Genealogiam ex hibens, una cum literis, scribendiques, modis, omnium gentium», 1741 (Паводле: Plihál and Hapák, 2003: 103).**

змена асноваў, каб дзяржаўныя інстанцыі нарэшце пачалі выдаваць акты і ўніверсалы па-літоўску. І такою падзеяй сталася Канстытуцыя 3 траўня 1791 года, тэкст якой у Вялікім Княстве перакладаецца ўжо па-літоўску, як і некаторыя дакументы Паўстання Касцюшкі (Tumelis, 1997: 11–40).

У чым жа прычына таго, што літоўская мова здолела так позна, толькі ў канцы XVIII стагоддзя, падысці да дасягнення ўзроўню мовы афіцыйных актаў Вялікага Княства Літоўскага?

## VI. Спробы адказу: білінгвізм ці дыгласія?

У перыяд сярэдзіны XIII – першай паловы XIV стагоддзяў, калі толькі ўзнікала і ўсталёўвалася дзяржава, вядомая потым пад афіцыйнаю назваю Вялікае Княства Літоўскае (варыянт: Літоўскае і Рускае), у яе гістарычным рэгіёне існавалі толькі дзве канцылярскія традыцыі: лацінская і «руская» (кірылічная). Урэшце гэтыя традыцыі і прыняла канцылярыя літоўскіх уладароў – можна сцвярджаць, што з канца XIV стагоддзя «руская» мова выконвала функцыі афіцыйнай канцылярскай (дзяржаўнай) (Błaszczyk, 2002: 302). І гэтую мову з кірылічнаю графікай можна ўжо цалкам апраўдана называць старабеларускаю, бо яна значна адышла ад пачатковага графічнага старажытнарускага ўзору і пачала адлюстроўваць, пры ўсім кансерватызме


Prowa pastanawita
treczio Dieno Moios, 1791. Miatu.

1261

Pastanawims Rondaus

1791 m. gegužės 3 d. konstitucijos to meto vertimo į lietuvių kalbą pradžia

**Малюнак 12. Канстытуцыя Трэцяга траўня (1791 года) («*Prowa pastanawita treczio Dieno Moios, 1791 Miatu. Pastanawims Rondaus*»). Рукапіс XIX стагоддзя (Lietuvos TSR istorija, 1986: 222; Tumelis, 1978: 95–105).**

графічных сродкаў, мясцовыя моўна-культурныя рэаліі. Далей гэты працэс «беларусізацыі» канцылярскай мовы, з уключэннем асобных паланізмаў, літуанізмаў (балтызмаў) і адлюстраваннем спецыяльнай гаспадарча-прававой лексікі, толькі нарастаў цягам XV–XVI стагоддзяў. Лаціна поруч са старабеларускаю была другою канцылярскаю моваю ВКЛ XIV–XVI стагоддзяў. Што праўда, ва ўнутранай дакументацыі старабеларуская мова яўна пераважала. Аснову ж сваёй графічнай сістэмы яна ўзяла са стараславянскай.

І лаціна, і стараславянская мова былі праяваю ўніверсалізму – толькі розных цывілізацыйных рэгіёнаў: заходнехрысціянскага і візантыйскага цывілізацыйнага кола ва Усходняй Еўропе – Візантыйскай Супольнасці Нацыяў, паводле Дзмітрыя Абаленскага (Оболенский, 1998: 11,13). Спецыфіка ж поствізантыйскай культурнай сітуацыі ў тым, што гэты «кірылічны» ўніверсалізм трансфармаваўся ў мясцовы феномен – пісьмовую старабеларускую мову. У гэтых умовах глыбокіх культурных зрухаў і трансфармацыі XIV–XV стагоддзяў літоўская мова яшчэ не мела сваёй уласнай культурнай пісьмовай традыцыі (асобныя эксперыменты ў гэтым кірунку назваць традыцыяй нельга). Таму Тымаці Снайдэр (2010: 37) і сцвярджае, што «*ў палітыцы польска-літоўскай дзяржавы яна не адыгрывала колькі-небудзь значнай ролі*».

Але гутарковая літоўская мова ў XV–XVI стагоддзях у ВКЛ функцыянавала не толькі як сродак зносін сялянаў. Яна цыркулявала ў некаторых мяшчанскіх асяродках (найперш у Коўне і ў нейкай ступені ў Вільні) ды мела сімпатыкаў сярод найвышэйшых слаёў грамадства. І тут хаваецца пэўны парадокс. З аднаго боку, мы бачым жывую традыцыю трансляцыі вуснай літоўскай мовы, яе прыхільнікі ў XVI стагоддзі займалі ў Вялікім Княстве высокія пасады, а дзякі і пісары літоўскага паходжання наўпрост уплывалі на фармаванне моўнай культуры і традыцыяў Канцылярыі ВКЛ, сведчаннем чаго служаць, апроч іншага, літуанізмы ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове. З іншага боку, літоўская мова ў XVI–XVII стагоддзях так і не зрабілася моваю актаў у Вялікім Княстве, і асобныя словы ды фразы ў іншамоўных тэкстах толькі падкрэсліваюць гэтае становішча.

І падобная сітуацыя склалася і захоўвалася ў перыяд, калі ўжо ўзнікла практыка кнігадрукавання на літоўскай мове ды распачаўся працэс выпрацоўвання яе кніжна-літаратурнай нормы. Магчыма, сваю ролю тут выканаў канфесійны фактар, бо першыя літоўскія кнігі былі падрыхтаваныя пратэстантамі і друкаваліся ў лютэранскай Прусіі пры падтрымцы герцагскай улады з яўнаю мэтаю катэхізацыі мясцовых літоўцаў (Дзярновіч, 2005: 19). Але ўжо напрыканцы XVI стагоддзя літоўскім кнігадрукаваннем пачалі займацца і езуіты. Паспрабуем адказаць на пастаўленыя пытанні праз аналіз сацыялінгвістычнай сітуацыі.

Відавочна, што Вялікае Княства Літоўскае належала да тых супольнасцяў, дзе звычайнаю з'яваю было выкарыстанне больш чым адной

мовы, зрэшты, як і ў большасці еўрапейскіх дзяржаваў. У такой рухомай моўнай сістэме трэба адрозніваць парадак засваення моваў[5] ад ступені актуальнага іх выкарыстання. Гэты падзел, а таксама тэрміны і сімвалы прапанаваў Уілфрэд Уайтлі,а пашырыў ідэю Роджэр Бэл (Белл, 1980: 155).

Прыклад этнакультурнай сітуацыі ВКЛ нам цікавы яшчэ і таму, што ілюструе: існуюць грамадствы, дзе ёсць сацыяльна абгрунтаваная і культурна значная функцыянальная дыферэнцыяцыя моваў, якія выкарыстоўваюцца ў гэтым грамадстве. Фактычна гэта азначае, што ў грамадстве ўсталёўваецца згода адносна таго, што адныя мовы маюць «высокі» статус, а іншыя – «нізкі». Звычайна ў такой сітуацыі назіраецца функцыянальны падзел паміж гэтымі дзвюма разнавіднасцямі: «высокая» мова захоўваецца для «фармальнага», «публічнага» выкарыстання, часта прызнаецца моваю афіцыйнага справаводства (як у выпадку са старабеларускаю моваю паводле II і III Статутаў ВКЛ) або юрыдычна аформленаю дзяржаўнаю моваю (гэта ўжо з'ява позняга Новага і Найноўшага часу). Гэтая мова вылучаецца больш складанымі і кансерватыўнымі лінгвістычнымі прыкметамі, чым «нізкая» мова.

«Высокая» мова можа мець ўвасабленне ў старажытнай літаратуры, захоўваецца і шануецца ў супрацьвагу «хатняму», неафіцыйнаму статуса «нізкай» мовы з яе зменлівай і часта «спрошчанаю» структураю, абмежаванай вуснымі каналамі камунікацыі (Белл, 1980: 176). Для пазначэння такой сітуацыі незбалансаванага дзвюхмоўя з рознымі функцыянальнымі сферамі ўжывання амерыканскі лінгвіст Чарлз Фэргюсан (1921–1998) у 1959 годзе ўвёў тэрмін «дыгласія» (Ferguson, 1959: 325-340).

Білінгвізм ёсць вынікам выкарыстання індывідам або грамадствам больш чым адной мовы (моўнага коду). Дыгласія ж ёсць вынікам ацэнкі функцыянальнага падзелу гэтых моваў, і таму білінгвізм і дыгласія могуць сустракацца ў моўных супольнасцях разам ці асобна. Магчымыя тры тыпы адносінаў паміж білінгвізмам і дыгласіяй: толькі білінгвізм, толькі дыгласія і спалучэнне білінгвізму з дыгласіяй.

Але і гэтай канстатацыі ўзаемаперапляценняў моўных кодаў будзе не дастаткова, каб ацаніць

**Табліца 2. Мова: паслядоўнасць засваення і выкарыстання**

| Храналагічны аспект | Статус мовы | Умоўнае пазначэнне |
|---|---|---|
| Дыяхранічны | Першая мова<br>Другая мова | L1<br>L2 |
| Сінхранічны | Першасная мова<br>Другасная мова | PL<br>SL |

5 У першым выпадку размова ідзе пра *дыяхранічны*, а ў другім пра *сінхранічны* аспект моўнай сітуацыі.

сацыяпсіхалагічны эфект шматмоўя. Як сцвярджаюць сацыялінгвісты, сярод супольнасцяў, дзе большасць складаюць білінгвы, паняцце «розныя мовы» выглядае мала апраўданым, хіба што ў сэнсе «розныя стылі» (Белл, 1980: 190–191). Відавочна, такая сітуацыя магчымая ў выпадку «развітага» білінгвізму – калі ў наяўнасці сапраўды факт свабоднага валодання чальцамі супольнасці рознымі моўнымі кодамі. У такіх выпадках пераключэнне кодаў часта адбываецца па-за свядомасцю ўдзельнікаў працэсу камунікацыі і пазней імі не прыгадваецца. Гэты факт прымушае зноў усумніцца ў сцверджанні пра маналітнасць моўных структураў, з якога вынікае ўяўленне пра мовы як пра дыскрэтныя (перарывістыя) утварэнні, падзеленыя выразнымі межамі. Гэтыя развагі тычацца мовы як кодавай сістэмы, а не яе сацыяльнага значэння. У грамадстве нават выкарыстанне

**Табліца 3. Сферы ўжывання моваў літоўскамоўнымі жыхарамі ВКЛ (першая палова XVI стагоддзя)[6]**

| **Сацыяльныя страты / Рэгіён** | **Прыватна-сямейная сфера** | **Гаспадарча-дзелавыя адносіны і справаводства[7]** | **Сфера афіцыйнай публічнай камунікацыі (дзяржаўныя і судовыя канцылярыі)** | **Рэлігійная сфера** |
|---|---|---|---|---|
| Магнатэрыя і Паны-Рада | літ. (L1?-PL?); пол. (L2-SL); ст.-бел. (L2-SL) | ст.-бел. (L1-PL); пол. (L2-SL); лац. (L2-SL) | ст.-бел. (L1-PL); пол. (L2-SL); лац. (L2-SL) | пол. (L1-SL); лац. (L2-PL) |
| Сярэдняя шляхта, дзяржаўныя службоўцы (урады) / Літоўскамоўныя рэгіёны | літ. (L1-PL?); ст.-бел. (L2-SL?); пол. (L2-PL) | ст.-бел. (L1-PL); пол. (L2-SL); лац. (L2-SL) | ст.-бел. (L1-PL); пол. (L2-SL); лац. (L2-SL) | пол. (L1-SL); лац. (L2-PL) |
| Дробная баяры-шляхта / Літоўскамоўныя рэгіёны | літ. (L1-PL); ст.-бел. (L2-SL) | ст.-бел. (L1-PL); пол. (L2-SL) | ст.-бел. (L1-PL); пол. (L2-SL) | літ. (L1-SL); лац. (L2-SL); пол. (L2-PL?) |
| Купцы і мяшчане / Коўна, часткова Вільня і Трокі | літ. (L1-PL); ст.-бел. (L2-SL) | літ. (L1-SL); ст.-бел. (L2-PL); пол. (L2-SL) | ст.-бел. (L1-PL); пол. (L2-SL); лац. (L2-SL) | літ. (L1-PL); лац. (L2-SL); пол. (L2-SL) |
| Сяляне / Літоўскамоўныя рэгіёны | літ. (L1-PL) | літ. (L1-SL); ст.-бел. (L2в.-PL) | ст.-бел. (L1в.-PL) | літ. (L1-PL) |

6 Умоўныя скарачэнні моваў: лац. – лаціна; літ. – літоўская (вусная гаворка); пол. – польская; ст.-бел. – старабеларуская; в. – вусная форма мовы.

7 Прадугледжвае забеспячэнне сферы зямельнага карыстання для шляхты і магнатаў, а таксама сферы гандлёва-фінансавых зносінаў для мяшчанства і купецтва.

некалькіх дзясяткаў словаў можа ўспрымацца як «іншая мова». Асобнаю моваю ёсць тое, што ўспрымаецца як асобная мова, не зважаючы на структуру.

Паспрабуем суаднесці гэтыя метадалагічныя напрацоўкі з эмпірычным досведам вывучэння этнамоўнай і этнакультурнай сітуацыі ў Вялікім Княстве Літоўскім – і менавіта на базе найперш дакументальных ды наратыўных пісьмовых крыніцаў. Пры аналізе сфераў ужывання літоўскамоўнымі жыхарамі ВКЛ іншых моваў неабходна рабіць разбіўку паводле сацыяльных стратаў (слаёў). Для аналізу мы абралі XVI стагоддзе, калі яшчэ захоўваўся высокі афіцыйны статус старабеларускай мовы, але таксама пачыналася пашырэнне літоўскай пісьмовай мовы. Пры гэтым цягам XVI стагоддзя адбываліся значныя змены ў лінгвістычнай сітуацыі, таму ў нашым аналізе перыяд разбіты на дзве часткі. Папярэднія вынікі падсумавання існых даследаванняў лінгвістычнай сітуацыі падведзеныя для першай паловы XVI стагоддзя (табліца 3).

Разбіўка моваў паводле функцыянальных сфераў рабілася на падставе аналізу пісьмовых дакументальных крыніцаў, багата якіх пачынае з'яўляцца менавіта ў канцы XV – першай палове XVI стагоддзяў у сувязі з пачаткам сістэматычнага вядзення Метрыкі ВКЛ. Але трэба прызнаць, што пабудова рэлевантнай табліцы ступеняў падобных суадносінаў патрабуе далейшай распрацоўкі і вывядзення статыстычнай інфармацыі з масіву пісьмовай дакументацыі. Усё гэта патрабуе далейшых даследаванняў. Пакуль жа гэтая табліца, якая прадугледжвае дыскусійнасць, можа паслужыць пачатковым пунктам для абмеркавання методыкі даследавання этналінгвістычнай сітуацыі ў ВКЛ.

Але адну тэндэнцыю трэба прызнаць і адлюстраваць у працягу нашай табліцы – гэта ўзмацненне пазіцыяў польскай мовы. Сярод чатырох моваў ВКЛ (старабеларускай, лаціны, літоўскай і польскай) толькі дзве мелі найбольшыя шанцы на атрыманне (або ўтрыманне) статуса мовы камунікацыі паміж народамі Вялікага Княства ў сярэдзіне XVI стагоддзя: старабеларуская і польская. У выніку цягам XVII стагоддзя перамагла польская мова. І ў гэтым працэсе былі сімвалічныя маркеры. У 1521 годзе ў ВКЛ прагучала першае казанне па-польску. Першы вядомы ліст магната ВКЛ, напісаны па-польску, датуецца 1531 годам, і належаў ён галаве «літоўскіх сепаратыстаў» Альбрэхту Гаштольду. У 1538 годзе ў Метрыку ВКЛ, якая стваралася пераважна на старабеларускай мове, быў унесены першы праўны акт, запісаны па-польску. Але сімвалічнаю мяжой у працэсе паланізацыі грамадства ВКЛ Гжэгаж Блашчык (Błaszczyk, 2002: 306–307) лічыць 1563 год – год выдання па-польску «Радзівілаўскай» або «Берасцейскай» Бібліі. І тут трэба падкрэсліць ролю Мікалая Радзівіла Чорнага і ўвогуле дзеячаў Рэфармацыі ў пашырэнні пальшчызны ў Вялікім княстве.

З улікам працэсу пашырэння польскай мовы, а таксама з'яўлення літоўскага кнігадруку і новага віду старабеларускага пісьменства і кнігадруку – рэфармацыйнага, варта

ўнесці змены ў нашую табліцу сферы ўжывання моваў для другой паловы XVI стагоддзя (табліца 4).

Для ўдакладнення інфармацыі, змешчанай у табліцы, трэба каротка патлумачыць прынцыпы сацыяльнага падзелу ўнутры шляхты. Крытэрыямі тут выступае велічыня зямельных уладанняў. Свае сістэмы ўнутрыстанавага падзелу прапаноўвалі даследнікі гісторыі ВКЛ Мацей Любаўскі (Любавский, 1900: 355–358), Мітрафан Доўнар-Запольскі (1927: 15–16), Ежы Ахманьскі (Ochmański, 1963: 154–155), Анатоль Грыцкевіч (Грицкевич, 1978: 96–97) і Валеры Мянжынскі (Менжинский, 1987: 170–172). Міхаіл Спірыдонаў (Спиридонов, 1993: 30–32)

**Табліца 4. Сферы ўжывання моваў літоўскамоўнымі жыхарамі ВКЛ, а таксама жыхарамі літоўскага паходжання (другая палова XVI стагоддзя)[8]**

| Сацыяльныя страты / Рэгіён | Прыватна-сямейная сфера | Гаспадарча-дзелавыя адносіны і справаводства | Сфера афіцыйнай публічнай камунікацыі (дзяржаўныя і судовыя канцылярыі) | Рэлігійная сфера* |
|---|---|---|---|---|
| Магнатэрыя і Паны-Рада | пол. (L1-PL); ст.-бел. (L2-SL) | пол. (L1-PL); ст.-бел. (L2-SL); лац. (L2-SL) | пол. (L1-PL); ст.-бел. (L2-SL); лац. (L2-SL) | пол. (L1-SL); лац. (L2-PL); ст.-бел. (L2-SL) |
| Сярэдняя шляхта, дзяржаўныя службоўцы (урады) / Літоўскамоўныя рэгіёны | літ. (L1 ?-PL?); ст.-бел. (L2-SL); пол. (L2-SL) | ст.-бел. (L1-PL?); пол. (L2-SL); лац. (L2-SL) | ст.-бел. (L1-PL); пол. (L2-SL); лац. (L2-SL) | пол. (L1-SL); лац. (L2-PL) ст.-бел. (L2-SL) |
| Дробная баяры-шляхта / Літоўскамоўныя рэгіёны | літ. (L1-PL); ст.-бел. (L2-SL) | ст.-бел. (L1-PL); пол. (L2-SL) | ст.-бел. (L1-PL); пол. (L2-SL) | літ.(L1-SL); лац. (L2-SL); пол. (L2-PL?); ст.-бел. (L2-SL) |
| Купцы і мяшчане / Коўна, часткова Вільня і Трокі | літ. (L1-PL); ст.-бел. (L2-SL) | літ. (L1-SL); ст.-бел. (L2-PL); пол. (L2-SL) | ст.-бел. (L1-PL); пол. (L2-SL); лац. (L2-SL) | літ. (L1-SL); лац. (L2-SL); пол. (L2-PL?); ст.-бел. (L2-SL) |
| Сяляне / Літоўскамоўныя рэгіёны | літ. (L1-PL) | літ. (L1-SL); ст.-бел. (L2в.-PL) | ст.-бел. (L1в.-PL) | літ. (L1-PL) |

* У рэлігійнай сферы ўжыванне старабеларускай мовы для ўсіх катэгорыяў насельніцтва (мяшчанства, шляхта і магнатэрыя) звязанае з пратэстанцкаю літаратураю. Для дробнай шляхты і мяшчанаў літоўская мова ў рэлігійнай сферы мела, апроч гутарковай, таксама пісьмова-кніжную форму, для сялянаў – пераважна гутарковую форму.

[8] Умоўныя скарачэнні моваў: лац. – лаціна; літ. – літоўская (вусная гаворка); пол. – польская; ст.-бел. – старабеларуская; в. – вусная форма мовы

прааналізаваў гэтыя розныя сістэмы і вылучыў свае выразныя крытэрыі ўмоўнага падзелу стану землеўласнікаў. Вызначыць прыблізныя памеры зямельных уладанняў магчыма паводле Попісаў войска ВКЛ 1528, 1565 і 1567 гадоў, дзе паведамляецца пра колькасць «коней» (конных ваяроў), якія выстаўляліся прапарцыйна колькасці належных феадалам сялянскіх «службаў» (адзінка абкладання павіннасцямі) або «дымоў» (гаспадарак).

урады (супадае з катэгорыяй 3 паводле Спірыдонава); 3) дробная баярышляхта (аб'ядноўвае катэгоры 1 і 2 паводле Спірыдонава).

Таксама для адэкватнага разумення інфармацыі, пададзенай у табліцах 3 і 4, неабходна абумовіць рэгіёны ВКЛ, дзе літоўская мова ў розных яе гутарковых версіях выкарыстоўвалася ў XVI стагоддзі. З пункту гледжання этнадыялектнага раянавання этнаграфічнай Літвы гэта:

**Табліца 4. Катэгорыі землеўласнікаў (феадалаў) паводле колькасці «коней», якія выстаўляліся імі ў войска ВКЛ ў 1528 і 1567 гадах**

| № п/п | Катэгорыя феадалаў | Колькасць «коней» | Памеры зямельных уладанняў | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1528 год | | 1567 год | |
| | | | у «службах» | у «дымах» | у «службах» | у «дымах» |
| 1 | Найдрабнейшыя | 1 | 0–15 | 0–31 | 0–19 | 0–39 |
| 2 | Дробныя | 2–10 | 16–87 | 32–175 | 20–109 | 40–219 |
| 3 | Сярэднія | 11–50 | 88–407 | 176–815 | 110–509 | 220–1019 |
| 4 | Буйныя | 51–100 | 408–807 | 816–1615 | 510–1009 | 1020–2019 |
| 5 | Найбуйнейшыя (магнаты) | 101 і больш | 808 і больш | 1616 і больш | 1010 і больш | 2020 і больш |

*Крыніца*: Спиридонов, 1993: 31

Для даследавання моўна-культурнай сітуацыі мэтазгодна мадыфікаваць гэтыя катэгорыі землеўладальнікаў і выкарыстоўваць падзел на тры групы: 1) магнатэрыя і Паны-Рада (аб'ядноўвае катэгорыі 4 і 5 паводле Спірыдонава) – гэты падыход бліжэйшы да крытэрыяў Любаўскага, які да найбуйнейшых землеўладальнікаў адносіў усе роды, прадстаўленыя ў Радзе, незалежна ад колькасці выстаўленых «коней»; 2) сярэдняя шляхта, дзяржаўныя службоўцы – Жамойць (жамойцкія дыялекты), Аўкштота (гістарычны статус якой не зусім зразумелы), Судовія (па левым беразе Нёмна) і Дзукія (не да канца зразумела, як гэты этнакультурны рэгіён суадносіцца з гістарычнаю Віленшчынаю). З пункту гледжання адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу сярэдзіны XVI стагоддзя (паўсталага ў выніку рэформы 1565–1566 гадоў), да літоўскамоўнага арэалу ВКЛ належаць Жамойцкае староства (княства), Троцкае ваяводства

(з паветамі Троцкім, Ковенскім, Упіцкім, Гарадзенскім) і Віленскае ваяводства (з паветамі Віленскім, Ашмянскім, Лідскім, Вількамірскім, Браслаўскім). Зразумела, усходнія і паўднёвыя рэгіёны гэтага абшару (найперш Віленскага, а таксама паўднёвыя рэгіёны Троцкага ваяводстваў) яшчэ з X стагоддзя былі зонаю моўных балта-славянскіх кантактаў, таму даволі няпростай уяўляецца праблема вызначэння паўднёва-ўсходняй мяжы літоўскамоўнага арэалу ў Вялікім Княстве Літоўскім XVI стагоддзя. Паводле распрацовак польскіх даследнікаў, у старажытнарускія часы гэтая мяжа праходзіла прыкладна па лініі: возера Асвея – Дзісна – Пліса – Будслаў – Заслаўе – Рубяжэвічы – Дзераўная – Беліца – Слонім – Ваўкавыск (Łowmiański, 1983: 51–58). Да XIV стагоддзя лінія гэтай мяжы перасунулася з левага на правы бераг Нёмна і праходзіла паралельна рэчышчу ракі – па так званай лініі Сафарэвіча (мяжы канцэнтрацыі паселішчаў з назвамі на *-ішкі*) (Safarewicz, 1967: 257–259). Для XVI стагоддзя Ежы Ахманьскі размяшчае літоўска-беларускамоўную мяжу ў даволі шырокім пасе на «ашмянска-менскім» памежжы – на мяжы паміж Ашмянскім і Менскім паветамі. Пры гэтым Ахманьскі карыстаецца аналізам сеткі каталіцкіх парафіяў, прыкметамі тапанімістыкі і антрапанімічнымі звесткамі з гаспадарчых інвентароў (Ochmański, 1981: 42–56). У цэлым прапанаваная Ахманьскім тэрыторыя «Lithuania Propria» («уласна Літвы», «Літвы ў вузкім сэнсе тэрміну») XVI стагоддзя адлюстроўвае нашае бачанне масіву літоўскіх гаворак у ВКЛ з тым толькі важным удакладненнем, што да самой Вільні цягнуўся цераспалосны пас балта-славянскіх паселішчаў.

## Некаторыя вынікі

Падсумоўваючы, можна адзначыць, што ў шматэтнічным і шматкультурным грамадстве Вялікага Княства Літоўскага XV–XVII стагоддзяў існавала моўная сітуацыя «мноства **дыгласіяў**»,[9] калі за кожнаю моваю былі даволі выразна замацаваныя пэўныя грамадскія функцыі. У адрозненне ад білінгвізму дыгласія як сацыялінгвістычны феномен прадугледжвае ацэнку тым, хто гаворыць, сваіх ідыёмаў паводле шкалы «ўрачыстае – будзённае». У адной і той жа грамадскай сферы адначасова не выкарыстоўваліся дзве моўныя сістэмы (афіцыйная і народная).

Этнічныя літоўцы сярод дробнай шляхты і купецтва ВКЛ, якія ў паўсядзённым і побытавым жыцці маглі размаўляць на літоўскай мове, у публічнай сферы выкарыстоўвалі афіцыйную мову справаводства – «рускую» (старабеларускую). Лаціна заставалася моваю літургіі, але казанні ў шматлікіх выпадках прамаўляліся па-літоўску. Па-за рэлігійнаю сферою лаціна была моваю дыпламатыі і найважнейшых унутраных актаў.

[9] У сітуацыі «проста» дыгласіі дзве мовы існуюць у становішчы функцыянальнага балансу. У сітуацыі ж адначасовага функцыянавання ў розных сферах некалькіх моваў, як у ВКЛ, мы можам казаць пра сітуацыю «мноства дыгласіяў».

Помнікі ж літоўскага пісьменства XVI стагоддзя заставаліся выключна рэлігійнымі (Дубасова, 2005: 28), прычым мелі функцыянальнасць як бы другога плану – дапаможную. Пры гэтым большасць эліты ВКЛ у XVI стагоддзі не ведала літоўскай мовы, бо значная частка ліцвінскай шляхты вяла свой радавод з «русінскага» баярства, а сярэдняя шляхта (у тым ліку і цэнтральныя ўраднікі) літоўскага паходжання паступова губляла веды балцкіх гаворак. Аднак дробная шляхта на тэрыторыях, дзе функцыянавалі балцкія гаворкі, яшчэ захоўвала камунікацыйныя веды ў гаворках сваіх сялянаў. Таксама частка каталіцкага мяшчанства Коўна і часткова Вільні магла быць носьбітамі літоўскай мовы яшчэ ў XVI стагоддзі. З'яўленне літоўскага кнігадруку найперш у Прусіі, а потым і ў ВКЛ дало пачатак працэсу кадыфікацыі літоўскай мовы, што, праўдападобна, прывяло да стабілізацыі ведання гэтага моўнага коду сярод мяшчанства і дробнай шляхты на этнічна літоўскіх тэрыторыях. Магчыма таксама, што працэс славянізацыі (спачатку беларусізацыі, а потым і паланізацыі) гэтых слаёў замарудзіўся, але гэтая гіпотэза патрабуе праверкі праз далейшыя даследаванні.

Славянамоўнае насельніцтва на тэрыторыі сучаснай Беларусі, дзе ўсё яшчэ працягваліся працэсы балтаславянскіх ўзаемаўплываў, у паўсядзённым жыцці выкарыстоўвала свае дыялекты. Пісьмовая ж старабеларуская мова выконвала функцыю афіцыйнай і была багатая на прававыя тэрміны, для разумення якіх патрабавалася падрыхтаванасць. Моваю Праваслаўнай царквы заставалася «славянская» (царкоўнаславянская), якая паступова напаўнялася мясцовымі лінгвістычнымі рэаліямі ды пераўтваралася ў царкоўнаславянскую мову мясцовай рэдакцыі.

Мова справаводства («руская») зведала значныя змены цягам XV-XVI стагоддзяў. Маючы з самага пачатку свайго развіцця ў якасці асновы пісьмовую старажытнарускую мову, гэтая мова ўсё больш перайначвалася лексічна, а таксама арфаграфічна і граматычна, набываючы тыя рысы, што дазваляюць беларускім лінгвістам і гісторыкам называць яе старабеларускаю (пры ўсім кансерватызме графічных сродкаў гэтай мовы і, вядома, маючы на ўвазе яе пісьмова-літаратурную норму). Афіцыйная канцылярская мова – гэта функцыя літаратурна-пісьмовай мовы. Дыскусійнасць тут заключаецца ў вызначэнні, у якой ступені вусная гаворка ўплывала на літаратурна-канцылярскую норму і ў якой ступені мова справаводства паўплывала на развіццё вуснай беларускай мовы. Эвалюцыя старабеларускага пісьма звязаная з імкненнем наблізіцца да жывога маўлення і пераадолець уплыў кніжнай традыцыі, што можна назіраць цягам усяго XVI стагоддзя.

Натуральна, папярэдняя характарыстыка сітуацыі дыглясіі разглядае перыяд да пашырэння ў ВКЛ польскай мовы, што можна акрэсліць як негвалтоўную паланізацыю элітаў ВКЛ.

Падобна, што ў XVI стагоддзі ў ланцугу трансляцыі літоўскай мовы ўтварыліся разрывы сярод эліты. Імаверна, аўтары і прапагандысты

этнагенетычнай канцэпцыі «рымскага паходжання» літоўскага баярства ўжо не валодалі свабодна літоўскаю моваю, бо змаглі абвясціць яе версіяй лацінскай. З пункту гледжання індаеўрапеістыкі гэтыя мовы (лацінская і літоўская) сапраўды блізкія, але зусім не ёсць адной і той жа для чалавека, які ведае хоць адну з іх. Аўгусціну Ратундусу так і не ўдалося рэалізаваць прапанаваную ім у прадмове да лацінскага перакладу Статута ВКЛ 1566 года лінгвістычную праграму максімальнага ўвядзення лацінскай мовы, гэта значыць «больш чыстай» літоўскай мовы. Хоць тут таксама мы бачым цікавую спробу лінгвістычнага эксперыменту – публічнага замацавання за лацінаю функцыі літаратурна-пісьмовай формы літоўскай мовы, якая разумелася ў шырокім сацыякультурным кантэксце. Фактычна, Ратундус прапаноўваў выбудаваць «унутраную дыгласію».

І дасягненні ў літоўскамоўным кнігадрукаванні сярэдзіны XVI – XVIII стагоддзяў, і абмежаванае функцыянаванне літоўскай мовы ў публічнай сферы XV–XVII стагоддзяў (сітуацыя дыгласіі), і дыскрымінацыя XIX стагоддзя, поруч з іншымі чыннікамі, паўплывалі на фармаванне канцэпцыі сучаснай літоўскай нацыі, для якой захаванне і абарона роднай мовы сталіся нацыяўтваральнымі фактарамі.

**Літаратура**


1. Белл, Роджер Т. (1980). *Социолингвистика. Цели, методы и проблемы*. Пер. с англ. Москва: Международные отношения.
2. Булыка, А. М. (1980). *Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV–XVIII ст.* Мінск: Навука і тэхніка.
3. Гердер, И. Г. (1977). *Идеи к философии истории человечества*. Пер. А. В. Михайлова. Москва: Наука.
4. Глисон, Г. (2002). *Введение в дескриптивную лингвистику*. Пер. с анг. Общ. ред. В. А. Звягинцева. Москва: Прогресс.
5. Грумадене, Л. (2005). «Антропонимия как свидетельство наличия многоязычия в Литве XVI в.», у *Мовы Вялікага Княства Літоўскага: матэрыялы IV Міжнароднай навуковай канферэнцыі (Брэст, 18-19 мая 2004 г.)*. Брэст: Акадэмія.
6. Грицкевич, А. П. (1978). «Распределение магнатских и шляхетских владений в Белоруссии по их величине и этнической принадлежности владельцев (XVI в.)», в *Вопросы истории*, Межведомственный сборник, Минск: БГУ, Вып. 5: 94−105.
7. *Гістарычны слоўнік беларускай мовы* (1982–2011). Мінск: Навука і тэхніка; Беларуская навука. Вып. 1−31.
8. Дзярновіч, Алег (2004). «Працяг традыцыі» у *METRICIANA: Даследаванні і матэрыялы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага.* 3: 11–17.
9. Дзярнович, Олег (2005). «Литовский язык в мультикультурном обществе Великого княжества Литовского XV–XVII веков», в *Исторический путь литовской письменности*. Вильнюс: Институт литовского языка.
10. Доўнар-Запольскі, Мітрафан (1927). «Сацыяльна-эканамічная структура Літоўска-Беларускай дзяржавы ў XVI–XVIII сталецьцях», в *Гістарычна-археолёгічны зборнік*. 1: 1–66.

11. Дубасова, А. (2005). «Орфография литовских памятников XVI века в контексте орфографических опытов соседей», в *Исторический путь литовской письменности*. Вильнюс: Институт литовского языка.
12. Дубоніс, Артурас (2004). «Да праблемы дзяржаўнай мовы ў Вялікім Княстве Літоўскім», в METRICIANA: *Даследаванні і матэрыялы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага.* 3: 205–219.
13. Зинкявичюс, Зигмас (1996). *Восточная Литва в прошлом и настоящем*. Вильнюс: Mokslo ir enciklopedijų leidykla.
14. Зинкявичюс, Зигмас (1999). «Древнейшие литовские тексты до Мартинаса Мажвидаса», в *Мартинас Мажвидас и духовная культура Великого княжества Литовского XVI века*. Вильнюс–Москва: Baltos lankos.
15. Лаучюте, Ю. А. (1982). *Словарь балтизмов в славянских языках*. Ленинград: Наука.
16. Лексічныя балтызмы ў беларускай мове (1969): (Матэрыялы для абмеркавання). Мінск: Інстытут мовазнаўства ім. Якуба Коласа АН БССР.
17. Любавский, М. К. (1900). *Литовско-русский Сейм*. Опыт по истории учреждения в связи с внутренним строем и внешней жизнью государства. Москва: Университетская тип.
18. Менжинский, В. С. (1987). «Структура феодального землевладения Великого княжества Литовского (По материалам Переписи войска 1528 г.)», *История СССР*. 3: 164–178.
19. Оболенский, Дмитрий (1998). *Византийское Содружество Наций. Шесть византийских портретов.* Москва: Янус-К.
20. Свяжынскі, Уладзімір (2004). «Вяртаючыся да дыскусіі пра афіцыйную мову ВКЛ», у *METRICIANA: Даследаванні і матэрыялы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага*. 3: 220–227.
21. Свяжынскі, Уладзімір (2005). «Народы і мовы», у *Вялікае Княства Літоўскае: Энцыклапедыя*. У 2 т. Т. 1. Мінск: БелЭн.
22. Снайдэр, Тымацi (2010). *Рэканструкцыя нацый: Польшча, Украіна, Літва і Беларусь, 1569–1999 гг.* Мінск: Медысонт.
23. Спиридонов, М. Ф. (1993). *Закрепощение крестьянства Беларуси (XV–XVI вв.).* Минск: Навука і тэхніка.
24. Тила, А. (1996) «Слово к читателю», в Зинкявичюс, Зигмас. *Восточная Литва в прошлом и настоящем*. Вильнюс: Mokslo ir enciklopedijų leidykla.
25. Топоров, Владимир (1999). «Мартинас Мажвидас в контексте его времени (К 450-летию со дня выхода в свет первой литовской книги)», в *Мартинас Мажвидас и духовная культура Великого княжества Литовского XVI века*. Вильнюс–Москва: Baltos lankos.
26. Błaszczyk, Grzegorz (2002). *Litwa na przełomie średniowiecza i nowożytności: 1492–1596.* Poznań: Wydawnictwo Poznańskie.
*27. Codex epistolaris Vitoldi magni ducis Lithuaniae* (1882). Wyd. A. Prochaska. Kraków: Sumptibus Academiae Literarum Crac.
28. Daukšos Postilė (1926): fotografuotinis leidimas. Kaunas: Lietuvos un-tas.
29. Dlugossii, Joannis. (2001). *Annales seu cronicae incliti Regni Poloniae.* Liber 11 et 12: 1431–1444. Varsaviae: PWN.
30. Ferguson, Charles A. (1959) «Diglossia», *Word*, 15: 325–340.
31. Mažvydas, Martynas (1974). *Pirmoji Lietuviška knyga*. Tekstą ir komentarus paruošė M. Ročka, Vilnius: Vaga.
*32. Mikolajus Daukšos 1595 metų katekizmas* (1995). Parengė V. Jakštienė, J. Palionis. Vilnius: Mokslo ir enciklopedijų leidykla.
33. Dubiński, Piotr (1788). *Zbiór praw y przywilejów miastu stolecznemu W(ielkiego)*

*X(ięstwa) L(itewskiego) Wilnowi nadanych*. Na żądanie wielu miast Koronnych, jako też Wielkiego Księstwa Litewskiego ułożony i wydany przez Piotra Dubińskiego, burmistrza wileńskiego. Wilno: W Drukarni J. K. Mci przy Akademij.

34. *Hansisches Urkundenbuch* (1916). Bd. 11. Ed. v. W. Stein. München; Leipzig: Verlag der Buchhandlung des Waisenhauses.
35. Hensel, Gottfried (1741). *Synopsis universae philologiae, sive unitas el harmonia linguarum totius orbis*. Nuremberg: In Comissis Apud Heredes Hommanianos.
36. Kulnytė, Birutė, sudarytoja (1990). *Lietuvos istorijos paminklai: iš Lietuvos istorijos ir etnografijos muziejaus rinkinių*. Vilnius: Lietuvos istorijos ir etnografijos muziejus.
37. Kiaupa, Zigmantas (2000). «Kauno miesto vaitas ir jo aktų knygos XVI a. – XVII a. pirmojoje pusėje», in Z. Kiaupa, J. Kiaupienė, E. Rimša, J. Sarcevičienė (sud.), *Kultūrų sankirtos: skiriama doc. dr. Ingės Lukšaitės 60-mečiui*. Vilnius: Diemedis.
38. Kiaupa, Z., Kiaupienė, J., Kuncevičius, A. (1998). *Lietuvos istoria iki 1795 metų*. Vilnius: Valstybinis leidybos centras.
39. Lebedys, Jurgis (1963). *Mikolajus Daukša*. Vilnius: Valstybinė grožinės literatūros leidykla.
40. Lebedys, Jurgis (1976). *Lietuvių kalba XVII–XVIII a. viešajame gyvenime*. Vilnius: Mokslas.
41. Lietuvos Metrika (1995). *Knyga Nr. 225 (1528–1547): 6-oji Teismų bylų knyga (XVI a. pabajgos kopija)*. Spaudai parengė S. Lazutka, I. Valikonytė ir kt. Vilnius: Vilniaus Universiteto leidykla.
42. *Lietuvos Metrika (2001). Knyga Nr. 12 (1522–1529): Užrašymų knyga 12*. Parengė Darius Antanavičius ir Algirdas Baliulis. Vilnius, Žara.
43. *Lietuvos Metrika (2003). Knyga Nr. 9 (1511–1518): Užrašymų knyga 9*. Parengė Krzysztof Pietkiewicz. Vilnius, Žara.
44. *Lietuvos TSR istorija* (1986). T. 1: Nuo seniausių laikų iki 1917 metų. Red. kol. B. Vaitkevičius, M. Jučas, V. Merkys. 2 leid. Vilnius: Mokslas.
45. Lukšaitė, Ingė (1999). *Reformacija Lietuvos Didžiojoje Kunigaikštystėje ir Mažojoje Lietuvoje: XVI a. trečias dešimtmetis – XVII a. pirmas dešimtmetis*. Vilnius: Baltos lankos.
46. Łowmiański, H. (1983). *Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego*. Poznań: UAM.
47. Narbutas, S. (1995). «Lietuviška marginalija 1530 m. Homilijose», *Kultūros barai*, 2: 56–59.
48. Narbutas, S. (2006). «Litewskie piśmiennictwo» in *Kultura Wielkiego Księstwa Litewskiego. Analizy i obrazy*. Kraków: Universitas.
49. Narbutas, S., Zinkevičius, Z. (1989). «Lietuviškos glosos 1501 m. mišiose», *Baltistica*, Priedas, 3 (2): 325–341.
50. Ochmański, J. (1963). *Powstanie i rozwój latyfundium biskupstwa wileńskiego (1387–1550)*: Ze studiów nad rozwojem wielkiej własności na Litwie i Białorusi w średniowieczu. Poznań: UAM.
51. Ochmański, J. (1981). *Litewska granica etniczna na wschodzie od epoki pliemiennej do XVI w*. Poznań: UAM.
52. Ochmański, J. (1982). *Historia Litwy*. Wrocław; Warszawa; Kraków; Gdańsk: Ossolineum.
53. Pakarklis, P. (1960). *Prūsijos valdžios gromatos, pagraudenimai ir apsakymai lietuviams valstiečiams*. Redagavo K. Jablonskis. Vilnius: Valstybinė politinės ir mokslinės literatūros leidykla.
54. Palionis, Jonas (1967). *Lietuvių literatūrinė kalba XVI-XVII a*. Vilnius: Mintis.
55. Plihál, Katalin and Hapák, Jozsef (2003). *Maps of Europe 1520-2001. A Selection*. Budapest: Helikon.
56. Safarewicz, J. (1967). *Studia językoznawcze*. Warszawa: PWN.

57. Topolska, Maria Barbara (2002). Społeczeństwo i kultura w Wielkim Księstwie Litewskim od XV do XVIII wieku. Poznań – Zielona Góra: Bogucki Wydawnictwo Naukowe.
58. Tumelis, Juozas (1978). «Gegužės Trečiosios konstitucijos ir Ketverių metų seimo nutarimų lietuviškas vertimas», *Lietuvos istorijos metraštis. 1977 m.:* 95–105.
59. Tumelis, Juozas (Paruošė) (1997). *Tado Kosciuškos sukilimo (1794) lietuviškieji raštai*. Vilnius: Žara.
60. Ulčinaitė, E (1999). «Merkelis Giedraitis – vyskupas, mecenatas, poetas», *Naujasis židinys*, 9/10: 444–453.
61. Urbelionienė, V. (1985). «1547–1861 m. lietuviškų knygų statistika», in Narbutas S. (red.), *Iš bibliografijos aruodų*. Vilnius: LTSR Knygų Rūmai.
62. Zinkevičius, Zigmas (1988). *Lietuvių kalbos istorija*. T. 3: Senųjų raštų kalba. Vilnius: Mokslas.
63. Zinkevičius, Zigmas (1995). «Mintys, kurios kyla susipažinus su Sigito Narbuto atrasta lietuviška marginalija 1530 m. Homilijose», *Lituanistica*, 3 (23): 62–65.
64. Zinkevičius, Zigmas (1996). *Lietuvių kalbos istorija*. Vilnius: Mokslo ir enciklopedijų leidykla.
65. Zinkevičius, Zigmas (2000). *Lietuvių poteriai: Kalbos mokslo studija*. Vilnius: Mokslo ir enciklopedijų leidybos institutas.
66. Zinkevičius, Zigmas (2005). *Krikščionybės ištakos Lietuvoje: Rytų krikščionybė vardyno duomenimis*. Vilnius: Katalikų Akademija.